Выдаецца са снежня 1994 г.
№12(72). 2001 г. Кошт па дамове.

ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

# ВОЛЬНАЕ + TV ГЛЫБОКАЕ

Wolne Glebokie

Free Hlybokaye

Жыве Беларусь!

## "Вольнае Глыбокае" з праграмай тэлеперадач

Чарговая наша мара і пажаданні многіх нашых чытачоў сталі рэальнасцю – незалежная рэгіянальная газета "Вольнае Глыбокае" са жніўня пачала выходзіць з каляровым укладышам праграмы тэлеперадач на тыдзень. Думаем, што Вам, паважаныя чытачы, вядома, што дзяржава не шануе незалежны друк, здараюцца выпадкі, калі кіёскі Саюздруку адмаўляюцца прадаваць незалежныя газеты, ствараюцца ўсялякага роду падатковыя складанасці. А паколькі "Вольнае Глыбокае" таксама незалежнае выданне, то і нам працаваць не мяды. І ўсё ж свята бывае на вуліцы кожнага з нас.

"Вольнае Глыбокае" можна набыць кожную пятніцу, суботу і нядзелю ў кіёсках Саюздруку і ў нашага распаўсюджвальніка, які па пятніцах і суботах будзе прадаваць газеты на глыбоцкай "хітрушцы", а ў нядзелю на глыбоцкім рынку. Колькасць укладышаў з праграмай тэлеперадач пакуль абмежавана. Затое ў чытачоў ёсць выбар: альбо купіць толькі газету альбо газету з праграмай. У залежнасці будзе праграма ці не, знаходзіцца і кошт выдання.

Паважаныя чытачы! Калі Вам не хапіла "Вольнага Глыбокага" у кіёсках Саюздруку, ідзіце на "хітрушку" ці на рынак – Вы знойдзеце наш тавар там. З цягам часу на нашу газету можна будзе падпісацца. Жадаючыя атрымаць "Вольнае Глыбокае" па падпісцы, могуць пакідаць свае каардынаты распаўсюджвальніку газеты пры пакупцы.

Чытайце "Вольнае Глыбокае"! Заставайцеся з намі!

*Супрацоўнікі "ВГ"*

## Пакліканыя служыць Госпаду

Ураджэнец Пастаўскага раёна Антоній Лось адразу пасля вайны скончыў каталіцкую духоўную семінарыю ў Варшаве і шмат часу адпрацаваў у храмах Польшчы. З 1989 года святар узначальвае прыход у вёсцы Ідалты Мёрскага раёна. Ён стварыў цэнтр хрысціянскай культуры ў Павяцці. Шмат намаганняў аддаў, каб вярнуць да жыцця касцёл у Друі.

Яшчэ больш, амаль 60 гадоў, аддаў душпастырскай дзейнасці на роднай зямлі святар з Глыбоцкага раёна Люцыян Паўлік, які ў свой час прайшоў праз ссылку і сталінскія лагеры. З яго актыўнай дапамогай нядаўна адчыніліся дзверы раней зачыненых храмаў у Празароках, Чарневічах, Прошкаве, Лужках, Германавічах. Старэйшы прадстаўнік каталіцкай канфесіі Віцебшчыны Л.Паўлік стаў першым на Беларусі, каму ўручылі вышэйшую ўзнагароду Ватыкана – залаты крыж. Калега Л.Паўліка Антоній Лось за шматгадовую плённую дзейнасць атрымаў ад Папы Рымскага Яна Паўла ІІ залаты медаль. Гэтыя ўзнагароды былі ўручаны ў Віцебскім кафедральным касцёле Святой Барбары ў час ўрачыстасцяў з нагоды 10-годдзя гэтай царквы.



*Нібыта ў жыце перапёлка,*
*Устрапянулася душа.*
*П'ю хлебны пах. Ён лепш за зёлкі,*
*Лепш сырадою з гладыша.*

*С.Законнікаў*
*«Велічная далеч»*

### Цытата першай паласы

Когда сидишь в собраньях шумных,
язык пылает и горит;
Но люди делятся на умных
И тех, кто много говорит.

*И. Губерман.*

## М. Марыніч і Л. Сініцын працягваюць барацьбу

Два прэтэндэнты на прэзідэнцкі пост Міхаіл Марыніч і Леанід Сініцын не спыняюць барацьбу за прызнанне таго факта, што імі сабрана больш за сто тысяч подпісаў у падтрымку іх вылучэння кандыдатамі ў прэзідэнты. Да прыкладу, М.Марыніч, пасол рэспублікі ў Латвіі і па сумяшчальніцтву ў Эстоніі і Фінляндыі, паведаміў, што ім устаноўлены такі факт: у двух раёнах Мінска – Маскоўскім і Фрунзенскім – выяўлены 4,5 тысячы подпісаў, якія чамусьці не зафіксаваны ў Цэнтрвыбаркаме. І калі іх улічыць, то ён пераадольвае неабходную для рэгістрацыі мяжу. Л.Сініцын сказаў, што свае правы балаціравацца ў прэзідэнты даказвае праз Канстытуцыйны суд.

*Ю.Пацёмкін*

## Місія АБСЕ ў Беларусь адкладваецца

30 ліпеня ўлады Беларусі паведамілі Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ аб неабходнасці адкласці місію, якая павінна быць у нашай краіне ўжо 1 жніўня для назірання за выбарчай кампаніяй. Планавалася, што міжнародныя назіральнікі будуць назіраць за рэгістрацыяй кандыдатаў у прэзідэнты. Гэты факт яшчэ раз даказвае тое, што беларуская ўлады вельмі баяцца чужога, незалежнага ад "вертыкалі" "вока", баяцца таго, што выбары сапраўды пройдуць згодна прынятых міжнародных стандартаў і тады, хаці не хаці, трэба будзе аддаваць уладу. А так не хочацца!

*М.Ясельская*

## Смачна есці

Нягледзячы на складаную фінансавую сітуацыю, Глыбоцкі малочна-кансервавы камбінат пачаў выпускаць малако пастэрызаванае "Бярэсце". Па смаку яно нічым не адрозніваецца ад лепшага вясковага, бо мае тлустасць 3,2%. Такую ж назву атрымаў і новы гатунак тварагу. У сучаснай упакоўцы пачалі прадаваць смятану. Тэхнолагі прадпрыемства рыхтуюцца выпусціць у продаж кефір "Троіцкі".

## Зварот да членаў выбарчых камісій

У сувязі з масавымі фальсіфікацыямі, якія былі дапушчаны пры падвядзенні вынікаў рэферэндума 1996 года, выбараў дэпутатаў у Палату прадстаўнікоў у 2000-ным годзе, аргкамітэт грамадскага кааліцыйнага руху "За новую Беларусь", "Беларускі рэспубліканскі клуб выбаршчыкаў" лічаць важным данесці да членаў выбарчых камісій, іншых зацікаўленых груп інфармацыю пра нацыянальнае выбарчае заканадаўства, думкі вядучых экспертаў у гэтай галіне, думкі палітычных і грамадскіх сіл, сацыяльных груп і грамадзян Беларусі аб выкананні выбарчага заканадаўства ў краіне, інфармацыю аб вопыце папярэдніх выбараў, бягучую інфармацыю аб дзейнасці выбарчых камісій і праблемах, з якімі прыходзіцца сутыкацца.

Выбары – гэта працэдура, у адпаведнасці з якой людзі вылучаюць са свайго асяроддзя прадстаўнікоў для абароны іх правоў і інтарэсаў. Менавіта ў ходзе выбарчых кампаній, асабліва кіраўнікоў дзяржаў, заўсёды адбываецца карэкціраванне папярэдніх перыядаў. Усе заходнія дэмакратыі абмяжоўваюць тэрміны знаходжання ва ўладзе сваіх кіраўнікоў, як правіла, двума тэрмінамі (да 10 год). Так робяць і нашы суседзі. Інакш – застой, карупцыя, бяспраўе, зніжэнне жыццёвага ўзроўню народа.

Нельга дапускаць, каб адны і тыя ж людзі навязвалі сябе народу, пазбаўлялі людзей інфармацыі. І тым больш амаральна фальсіфікаваць вынікі выбару народа. Гэта могуць дазволіць сабе толькі жулікі. Ці патрэбны нам жулікі на чале дзяржавы?

Дзякуючы выбарам, у народа ёсць магчымасць кантраляваць здзяйсненне ўлады тымі, каму мы аддалі свае галасы. І калі ўлада не абараняе інтарэсы сваіх выбаршчыкаў, такая ўлада павінна быць пераабрана. Менавіта праз выбары народ рэалізуе свае права кіраваць дзяржавай. Галасуючы на выбарах, мы наймаем на службу тых, каго выбіраем. Заробак яны атрымоўваюць з дзяржаўнага бюджэту, які фарміруецца з падаткаў, што мы плацім. Выбар прэзідэнта для нас усіх азначае выбар свайго лёсу. Выбар паміж дэградацыяй нацыі, жабрацтвам, міжнароднай ізаляцыяй і дабрабытам, упэўненасцю ў будучыні.

Права народа, а не асобных людзей які лёс выбраць для сябе.

*В.М.Шлындзікаў,*
*каардынатар грамадскага кааліцыйнага руху*
*"За новую Беларусь".*

## На сто долараў не разлічвайце

Выйсці сёлета на абяцаныя параметры заробкаў, эквівалентныя сотні долараў ЗША, большасці прадпрыемстваў і арганізацый Пастаўшчыны будзе немагчыма. На пачатак лета 23 суб'екты гаспадарання стратныя. Пра калгасы і саўгасы, наогул, размова не ідзе. Упалі аб'ёмы вытворчасці на шклозаводзе "Гута", Лынтупскім спіртзаводзе, мясакамбінаце ў райцэнтры. Іншыя калектывы працуюць на склад. Як гэтага павышэння дасягнуць, калі запазычанасць пастаўшчыкам за тавары, работы і паслугі перавысіла 7,3 мільярды рублёў. Выплата заробкаў затрымліваецца. У чэрвені на Пастаўшчыне зараблялі ў сярэднім толькі па 65,4 долараў. Але і сто долараў у месяц гэта няшмат, бо пры практычна аднолькавых цэнах мінімальны заробак у Літве за месяц складае 207 долараў, а ў Польшчы сто долараў штомесяц выплочваюць людзям, якія страцілі працу.

*У.Шык*

## Ад родных палеткаў

Працу над сваёй чарговай кнігай закончыў наш зямляк, рэдактар сталічнага выдавецтва "Юнацтва" Сяргей Панізнік. "Плешча ў сэрцах Дзвіна" — такую назву мае зборнік. Яго аўтар, вядомы паэт, кавалер Ордэна трох зорак Латвійскай Рэспублікі, пры першай магчымасці пабывае ў родным Мёрскім раёне.

Сяргей Сцяпанавіч стаў складальнікам зборніка прозы і паэзіі "З Купалам у сэрцы", які прысвечаны 120-годдзю з дня нараджэння вялікага песняра. Акрамя гэтага С.Панізнік курыруе штогоднік кніжнай серыі "Бацькаўшчына" аб гістарычным мінулым нашай зямлі. Асобныя кнігі з яе былі прадстаўлены на кніжнай выставе ў Беларускім тэатры аднаго акцёра "Зьніч", дзе па матывах творчасці земляка прайшла літаратурна-музычная кампазіцыя.

*У.Шык*

### Дажыліся
## Прыемнага апетыту?

Неяк прыйшлося мне купіць піражок у Глыбокім на плошчы каля універмага. Мне падалі яго загорнутым у паперку. Калі я яго з'еў і хацеў тую паперку выкінуць, то заўважыў на ёй нейкія літары. Прачытаў і быў вельмі ўражаны. Мала таго, што папера са шрыфтам, а яна ні ў якім разе не павінна кантактаваць з ежай, дык яшчэ аказалася, што гэта інструкцыя па карыстанню ядам "Каратэ" супраць каларадскага жука. Вось дык "прыемнага апетыту"! Няўжо ў гандлёвай арганізацыі няма грошы, каб купіць чыстую паперу? Калі так пойдзе і далей, то ў бутэльці з-пад ядахімікатаў пачнуць разліваць піва альбо квас.

*Зміцер Лупач*

# Рэгіянальны "экспрэс"

## Будзе рынак

Толькі на трэцім годзе будаўніцтва ў жыхароў Варапаева з'явілася ўпэўненасць, што ў іх усё-такі будзе свой новы рынак. Недахоп сродкаў у пасялковага савета і ў асноўных мясцовых прадпрыемстваў на доўгі час "замарозілі" гэтую будоўлю. Зараз праца наблізілася да фінішу. На асфальтаванай пляцоўцы плошчай 150 квадратных метраў абсталююць рады і крытыя навесы для гандлю прадуктамі харчавання. Як і раней, асноўны гандлёвы дзень на рынку ў Варапаева будзе кожны чацвер.

## За краты шосты раз

Толькі паспеў пяты раз вызваліцца з турмы жыхар Докшыцкага раёна Ч., як праз месяц яго зноў пацягнула на ранейшае. Разам са сваім знаёмым з Гомельскай вобласці ноччу ён апынуўся ў вёсцы Слабада. Адключылі падстанцыю і сігналізацыю ў магазіне і забралі харчоў і іншых тавараў на 206 тысяч рублёў. Але ўжо праз суткі злодзеяў адшукалі, бо на месцы злачынства тыя пакінулі адбіткі пальцаў рук і абутку.

Толькі супакоіліся аператыўнікі, што сёлета ў раёне на палову менш леташняга колькасць кватэрных крадзяжоў, як надарыліся новыя здарэнні. За кароткі тэрмін было абрабавана сем магазінаў. Адшукаць злодзеяў будзе няпроста, бо тыя дзейнічалі больш асцярожна і карысталіся аўтамабілямі.

## У цэнтры гучнага скандалу

У непрыемнай сітуацыі апынуўся пастаўчанін Г.Рабаконь, імя якога стала вядома на ўсю краіну. Ён быццам бы згадзіўся быць членам ініцыятыўнай групы па вылучэнню кандыдатам у прэзідэнты Л.Сініцына. Потым у Цэнтрвыбаркаме разам з неабходнымі паперамі і пяццю доларамі, якія быццам бы перадалі пастаўчаніну на дом, апынулася яго заява, дзе напісана, што ён не даваў сваёй згоды ўваходзіць у склад гэтай ініцыятыўнай групы. Так ці не ўсё адбывалася на самой справе, высветліцца ў судзе, куды пабаявцаў звярнуцца папярэджаны і пакрыўджаны Л.Сініцын, былы віцэ-прэм'ер беларускага урада.

*У.Шык*

*Выйдзі, бацька, падзівіся*
*Да чаго мы дажыліся?!*
*Хата -- бокам, клуня -- бокам*
*І карова з адным вокам.*



*Фота Васіля Саланінкі*

## Барацьба за ўраджай: пакуль што без чалавечых ахвяр

Ідзе чарговая «бітва» за ўраджай. За рулём «баявых машын» нярэдка сядзяць людзі, якія не маюць пасведчання на права кіравання трактарамі і іншай сельскагаспадарчай тэхнікай. Такое адбываецца ў некаторых гаспадарках Глыбоччыны. Вы бачыце на фотаздымку трактар, які працаваў на палетках калгаса імя Чапаева і набыў такі выгляд у час пасяўной. Кіроўца гэтага трактара не меў правоў на кіраванне і быў у час пасяўной, супраць уласнага жадання, назначаны на работу на гэту машыну. Трактар быў разбіты. І як вы думаеце хто панясе за гэта адказнасць? Я думаю, што ніхто. Бо, калі ўскласці адказнасць на трактарыста, то гэта адгукнецца і галоўнаму інжынеру, і старшыні калгаса.

А пакуль добра, што здарэнне абыйшлося без чалавечых ахвяраў.

*Я.Бернiковiч*

Ведай сваіх!

# Феномен

Наш горад поўніцца цікавымі людзьмі. Вось, напрыклад, Сяргей Рогач ужо, можна сказаць, былы навучэнец глыбоцкай СШ№3. Нягледзячы на тое, што ён скончыў усяго 9 класаў, у гэтым годзе, дзякуючы сваім фенаменальным ведам, залічаны ў элітарны Ліцэй БДУ у Мінску. Сяргей вельмі таленавіты праграміст, валодае самай прэстыжнай у свеце камп'ютэрнай мовай С++, скарыстоўвае таксама складаны Assembler і Visual Basic. Яшчэ ў восьмым класе ён здзіўляў настаўнікаў і аднакласнікаў сваімі праграмамі, напрыклад, стварыў свой "Тэтрас". Зараз хлопца цікавяць куды больш складаныя і карысныя для грамадства рэчы. Сяргей плануе стварыць першы ў свеце беларускі (!) інтэрпрэтатар. Калі праца будзе скончана, гэта фактычна дазволіць абеларусіць свет праграмавання. На жаль, зараз вельмі мала праграм з беларускім інтэрфэйсам (знешнім выглядам) і, тым больш, зместам. Інтэрпрэтатар – гэта фактычна новая камп'ютэрная мова, якую Сяргей намагаецца стварыць. Многія з вас могуць падумаць, што хлопец дарэмна марнуе час. У рэальнасці праца на такім узроўні – гэта вялікая практыка, якая спатрэбіцца яму ў далейшым пры пошуку працы.

Няма сумневу, што будучыня за сучаснымі тэхналогіямі і такі спецыяліст, як Сяргей Рогач, спатрэбіцца як для Беларусі, так і для заможнага Захаду. Пытанне толькі ў тым, ці здолее наша краіна пасля выбараў і пасля заканчэння адукацыі Сяргея належным чынам аплочваць яго нялёгкую і карысную ўсім нам працу.

*А.Храпавіцкі*

## Антыбеларусчынай тут пахне

Шматметровая стэла з каляровым старажытным гербам і датай "1409г.", год, калі былі заснаваны Паставы, упрыгожыла райцэнтр напярэдадні адкрыцця традыцыйнага музычнага фестывалю "Звіняць цымбалы і гармонік". Гэта музычнае свята прайшло годна і гасцінна. Прыкра тое, што назва "Паставы" была адліта ў бронзе на рускай мове. Недарэчна зрабілі і ў райспажыўтаварыстве, калі ў адрэстаўрыраваным магазінекулінарыі новую шыльду з назвай "Лидия" таксама выпрабілі на чужой мове. Такой непавагі да саміх сябе, да сваіх каранёў не сустрэнеш больш нідзе на планеце, а ў нас гэта стала дзяржаўнай палітыкай, згубнай для нацыі.

*У.Шык*

Да 420-годдзя з дня заснавання

# Мястэчка Германавічы: учора, сёння, заўтра

На тэрыторыі Шаркоўшчынскага раёна ёсць нямала пасяленняў, якія маюць багатую і цікавую гісторыю. Адно з іх — мястэчка Германавічы.

Ужо ў 1579 (па іншых крыніцах у 1580) годзе Германавічы адзначаны на карце Пахалавіцкага. Гэта карта Полацкага ваяводства. Германавічы таго часу — гэта вотчына Сапегаў.

Як паведамляецца ў "Слоўніку геаграфічным Польскага каралеўства і іншых славянскіх краін" (Варшава, т. 3, стар. 62-63), у 1739 годзе біскуп Іосіф Сапега за 12 тысяч талераў прадаў маёнтак Германавічы нямецкаму каланісту Яну фон-Экель Гільзэну. Пазней, у 1782 годзе, ад графа Іосіфа Гільзэна, мсціслаўскага ваяводы, маёнтак Германавічы купіў Ігнат Зрыні-Шырын за 2 мільёны злотых. У склад вялікага маёнтка Германавічы ўваходзілі два мястэчкі: Старыя і Новыя Германавічы. У 80-ых гадах XIX стагоддзя ў Старых Германавічах пражывала 245 жыхароў, а ў Новых--100. Да маёнтка адносіліся населеныя пункты: Белы Двор, Юзэфова, Атокі, Марыямпаль, Падольшчызна, Прамяны, Пузаны, Рэчкі і некалькі іншых невялікіх фальваркаў.

Ігнат Шырын у 1787 годзе пабудаваў у Германавічах касцёл з двухпавярховым кляштарам. На ўтрыманне касцёла і кляштара ён выдзеліў фальварак у 300 дзесяцін зямлі (15 валок). Сын Ігната Шырына Юстын, дзісенскі падкаморый, пабудаваў на правым беразе Дзісенкі двухпавярховы палац у класічным стылі і капліцу святых Пятра і Паўла. Палац акаямляў цудоўны парк з сажалкамі, алеямі. У палацы Шырынаў спыняліся паны, якія прыязджалі ў германавіцкія ўгоддзі на паляванне ці ў госці. Да ўладанняў Шырынаў належалі таксама Юндзілава і Шудзелеўшчызна, набытая Юстынам Шырыным за 360 тысяч злотых ад графа Юндзіла, а таксама маёнткі Рэчкі і Антопаль, набытыя жонкай Ігната Шырына Марыяй (з Якубоўскіх) за 600 тысяч злотых ад графаў Пацеяў. Апрача таго роду Шырынаў належалі маёнткі Селішча і Саланевічы ў Лепельскім павеце Віцебскай губерніі і маёнтак Клушчаны ў Свенцянскім павеце Віленскай губерніі. Усе маёнткі Шырынаў складалі 10-12 тысяч дзесяцін зямлі. Пазней маёнтак Германавічы быў раздзелены на тры роўныя часткі паміж праўнукамі Ігната Шырына. Германавічы без ваколіц налічвалі 1794 дзесяціны зямлі, 336 мужчынскіх душ.

Мястэчка Германавічы было цэнтрам каталіцкай парафіі, якая налічвала ў той час 3013 вернікаў. Хоць яна была акружана праваслаўнымі парафіямі, але насельніцтва яе было выключна каталіцкім. На тэрыторыі парафіі знаходзіліся яшчэ дзве капліцы — у Бальнове і Рэчках.

Новыя Германавічы з'яўляліся цэнтрам гміны, у склад якой уваходзілі тры сельскія акругі. Гэта Германавічы і Юзэфова — Шырынаў, Сабестыянава — Зараеўская. У Новагерманавіцкую сельскую акругу ўваходзілі вёскі Наваселыцы, Ліпава, Жукі, Сталіца, Глінаўка, Вуглы, Лявонаўка і фальварак Мнюціна-Рымшы.



*Касцёл Дабравешчання Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Германавічах*

У выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 годзе Дзісненскі павет увайшоў у склад Расіі, а ў 1795 годзе Дзісна была назначана павятовым горадам Мінскай губерні (з 1842 года Віленскай губерні).

Аднак, і пасля далучэння Беларусі да Расіі становішча беларускага народа заставалася цяжкім. Сяляне працавалі па тры дні ў тыдзень на пана. Частыя галадоўкі зводзілі людзей у магілу. Свае выратаванне яны бачылі ў выступленні супраць прыгняталькаў.

У 1830-1831 гадах у Польшчы пачалося паўстанне супраць рускага царызму. У сакавіку 1831 года паўстанне перакінулася з Літвы ў заходнія паветы Беларусі: Ашмянскі, Браслаўскі, Вілейскі і Дзісненскі. У ім удзельнічала каля 10 тысяч паўстанцаў. Цэнтрам паўстання 1831 года ў нашым краі было мястэчка Лужкі. Актыўны ўдзел у паўстанні прымалі і жыхары Германавіч. У Дзінабургскай крэпасці знаходзіліся кіраўнікі паўстання, у іх ліку і пан маёнтка Германавічы граф Антон Шырын.

Многае давялося перажыць жыхарам Германавіч за стагоддзі сваёй гісторыі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года ў Расіі наш край яшчэ на 20 гадоў аказаўся пад уладай Польшчы. У гэты час Германавічы заставаліся невялікім гандлёвым мястэчкам, дзе працавалі дробныя гандляры-яўрэі.

Жыццё сялян было нялёгкім, таму што за сельскагаспадарчую прадукцыю плацілі мала, а прамысловыя тавары каштавалі дорага. За пуд жыта плацілі на рынку 2 злотых, а кілаграм цукру каштаваў 1 злот. Каб купіць веласіпед, які каштаваў 100-120 злотых, трэба было прадаць 50-60 пудоў жыта, ці карову. Многія сяляне мелі мала зямлі, і частка іх ехала ў гарады ў пошуках работы ці нават за акіян, у Амерыку.

17 верасня 1939 года Заходняя Беларусь была занята войскамі Чырвонай Арміі, а потым далучана да БССР. Але мірнае жыццё прадаўжалася нядоўга. 22 чэрвеня 1941 года фашысцкая Германія напала на Савецкі саюз. На тэрыторыі нашага раёна шырока разгарнуўся партызанскі рух. У ваколіцах Германавіч паспяхова дзейнічала 4-ая Беларуская партызанская брыгада.

За гады Вялікай Айчыннай вайны мястэчка Германавічы было зруйнавана. Засталіся цэлымі лічаныя дамы. Усюды былі руіны і папялішчы.

Сённяшнія Германавічы – вялікі добраўпарадкаваны пасёлак, цэнтр сельсавета і калгаса "Бальшавік". У 1970 годзе тут налічвалася 209 гаспадарак, 649 жыхароў. Зараз налічваецца 290 двароў, 722 жыхары. У Германавічах ёсць сярэдняя школа, дзіцячы сад, бальніца, амбулаторыя, ветэрынарны пункт, аптэка, лясніцтва, аддзяленне сувязі, аўтаматычная тэлефонная станцыя, ашчадная каса, некалькі магазінаў, кафэ, бібліятэка, музей мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча, гісторыка-краязнаўчы музей у школе, культурна-асветніцкі цэнтр, які таксама носіць імя Язэпа Драздовіча. Устаноўлены помнік-стэла на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, зенітная пушка ў гонар вайны 1406-га зенітнаартылерыйскага палка. У мястэчку захаваліся помнікі архітэктуры: памешчыцкая сядзіба, мураваны касцёл XVIII стагоддзя, драўляная царква стараавераў.

Многія вуліцы ўпрыгожылі новыя катэджы.

Мястэчка за апошнае дзесяцігоддзе значна вырасла, пашырыла свае межы.

*К.Кажан*



## Праваабарончая старонка «СЛОВА НАРОДУ»

### Глыбоцкага аддзялення Беларускага Хельсінскага Камітэта

Грамадская прыёмная Глыбоцкага аддзялення **БХК** па правах чалавека вядзе прыём грамадзян штодзённа з **16⁰⁰** да **19⁰⁰**. Тэлефоны ў Глыбокім: **21938, 23754**

### Роздум з нагоды

## Паглядзіце ў вочы самім сабе

Ці бачылі вы калі-небудзь вочы кацянят, якіх нясуць тапіць альбо закопваць, бо няма куды дзець? Зірніце ў вочы нашых землякоў-беларусаў і вы ўбачыце ў іх адчай, страх, мальбу і разуменне таго, што так трэба: ад безвыходнасці няма куды дзецца.

Ці бачылі вы калі-небудзь вочы бяздомнага галоднага сабакі, які з надзеяй пазірае на чалавека і мае толькі адно жаданне – знайсці свой ланцуг, сваю працу, якая дасць хоць міску пахлёбкі ў дзень? Зірніце ў вочы нашых землякоў-беларусаў, якіх па-сучаснаму завуць бамжамі, зірніце ў вочы вымушаных беспрацоўных, паўгалодных, змучаных, якія жывуць адной надзеяй -- знайсці свой "ланцуг": працу, жыллё і хоць кавалак хлеба. У вачах гэтых людзей апатыя і расчараванне, бо не трымае надзейна іх "ланцуг", родная бацькаўшчына, не можа ні абуць, ні пракарміць. Радзіма даўно стала для многіх беларусаў месцам пражывання, не больш…

Вы бачылі калі-небудзь вочы каровы, ад якой сілком адымаюць цяля і адвозяць некуды – можа на бойню, можа на гадоўлю? Зірніце ў вочы жанчын-беларусак, маладых і паджылых, ад якіх сілком адарвалі іх мужоў і сыноў, забралі некуды – можа на бойню? У вачах гэтых жанчын нямая прорва нечалавечага жалю: дзе іх родныя? Хто загадаў іх знішчыць? І ўсё роўна цепліцца надзея, што яны вернуцца.

Калі чалавек памірае, родныя і блізкія прыходзяць на яго магілу, да яго вечнай хаты. А калі чалавек без вайны прападае без вестак? Што думаць? Перад якім курганком схіліць галаву? За што маліцца: за здароўе ці за спачын?

У Беларусі прападаюць людзі, не злачынцы, не здраднікі. Прападаюць палітыкі, актыўныя грамадскія дзеячы. Прападаюць сярод белага дня, не пакінуўшы ніякіх слядоў. Ці ж такое павінна быць.

У кожнага чалавека тры хаты. Царква – хата духа, сям'я – хата жыцця, могільнік – хата цела. Ёсць людзі, якія вераць у Бога. Ёсць тыя, хто ніколі не пераступаў прыступкі царквы. У нас ёсць права – верыць ці не.

Ёсць людзі, якія бачаць шчасце ў стварэнні сям'і, працягу рода. Ёсць тыя, хто уласнае "я" ставіць вышэй за ўсё – клапоціцца толькі пра сябе, жыве толькі дзеля сябе. У нас ёсць права выбіраць.

Але і першыя, і другія нікуды не дзенуцца ад абавязка наведаць сваю апошнюю зямную хату, хату цела. Мы ўсе, кожны ў свой час, сыйдзем у тую хату. Пра некага будуць памятаць стагоддзі, на некага забудуцца адразу пасля пахавання.

А паглядзіце ў вочы самім сабе і зразумейце адно: ніхто не мае права распараджацца чужым лёсам і прымушаць некага выконваць абавязак сыйсці, не даўшы пакарыстацца правам выбіраць. Зірніце ў вочы землякоў-беларусаў і вы ўбачыце ў іх ледзь прыкметны праменьчык надзеі мець права выбару.

*Г.Сутула*

## Пра буракі, выбары і рабскую псіхалогію

У Шаркоўшчынскае прадстаўніцтва БХК напрацягу чэрвеня тэлефанавалі з розных куткоў раёна і нават з Мёршчыны. Тэма была адна – калгасныя буракі. Справа ў тым, што маюць вяскоўцы пажыццёвую павіннасць – надзел калгасных буракоў. Так ужо павялося здаўна: жывеш у вёсцы, значыць, дзялка тая табе забяспечана. Прычым, мясцовая ўлада тлумачыць людзям, што гэта іх абавязак незалежна ад таго, дзе чалавек працуе (настаўнік, медработнік, работнік культуры…), не ўлічваючы ні стан здароўя, ні пенсійны ўзрост, ні жаданне чалавека. Паколькі пісьмовыя заявы ў БХК людзі пісаць баяцца, тлумачачы гэта магчымымі ганеннямі з боку ўлад, я магу растлумачыць толькі юрыдычны, законны бок справы.

Калі ў працоўнай дамове чалавека няма запісу, што ён павінен выконваць сезонныя палявыя работы, у дадзеным выпадку палоць буракі, ніхто не мае права "нарэзаць" яму дзялку. А падобны запіс можа быць толькі ў працоўнай кніжцы палявода. Настаўнікі, медыкі, культработнікі, пенсіянеры любую работу ў калгасе могуць выконваць толькі добраахвотна. І ўсім гэта добра вядома.

Я хацела б пагаварыць, паважаныя вяскоўцы, аб зваротным баку гэтай тэмы. За свае правы, супраць беззаконня, Вы павінны змагацца. Не стала ў калгасе паляводаў (а гэта вынік палітыкі дзяржавы ў адносінах да вёскі) – і буракі тыя прымушаюць палоць Вас. Не стане даярак, а гэты час ужо недалёка, — пойдзеце даіць кароў, карміць цялят… Вы самі дазваляеце адносіцца да Вас, як да прыгонных рабоў. Але ёсць мудры выраз: "Кожны атрымоўвае па заслугах". Сваім маўчаннем і пакорным цярпеннем Вы не здабудзеце лепшай долі ні сабе, ні сваім дзецям і ўнукам, хутчэй наадварот – выхаваеце іх рабамі.

На днях, едучы ў аўтобусе, пачула размову дзвюх жанчын. Гаворка ішла пра выбары, а дакладней, пра кампанію па збору подпісаў па вылучэнню кандыдатаў у прэзідэнты. З гутаркі я зразумела, што гаворка ішла пра мясцовую бібліятэкарку, якая адмовілася падпісацца за цяперашняга кіраўніка. Яе выклікалі ў "чырвоны дом" -- спачатку да загадчыка аддзела культуры, потым да аднаго з намеснікаў старшыні райвыканкама. Пагражалі звальненнем з працы. Жанчына, аблíўшыся слязьмі, на каленях!!! прасіла ўладных чыноўнікаў не адбіраць хлеб у яе дзяцей.

А мая знаёмая, якая збірала подпісы ў падтрымку Сямёна Домаша, расказала другі выпадак. Яе знаёмыя адмовіліся ад сваіх подпісаў пры праверцы прадстаўнікамі з раённай выбарчай камісіі, а ёй свой адказ патлумачылі так: "Даруй, але на Салаўкі мы не хочам".

Здаецца, не спалучаюцца гэтыя выпадкі з запытам аб прымусовых дзялках, але гэта толькі на першы погляд. Агульнае тут адно: рабская псіхалогія нараджае такія ж рабскія ўчынкі. Я вельмі спадзяюся, што гэты допіс трапіць на вочы ўсім дзеючым асобам расказаных выпадкаў. Шаноўныя! На каленях мы павінны стаяць толькі перад Богам і баяцца павінны толькі яго! Сёння Вы баіцеся адмовіцца ад буракоў, якія Вас прымушаюць палоць, а заўтра Вы пужліва адмовіцеся ад Бога. А калі нас пакіне Усявышні, ніякая зямная ўлада, тым больш цяперашняя, нас не выратуе.

*С.Табола, Шаркоўшчынскае прадстаўніцтва БХК.*

**Голас моладзі**

## Ты хочаш яшчэ сем год жыць так?

Мінулыя прэзідэнцкія выбары засведчылі, што да палітыкі ў беларускай моладзі стаўленне скептычнае і раўнадушнае. Маладыя людзі (як працоўныя, так і студэнцтва) фактычна праігнаравалі выбары, гэтым самым далі старэйшаму пакаленню, стомленаму ад цяжкасцяў першых год незалежнасці выбраць чалавека, які ў адрозненне ад занадта інтэлігентнага Пазняка і скарумпаванага Кебіча не сароме́ўся раздаваць направа і налева абяцанкі пра вяртанне да "старых і светлых" часоў. Так сталася, што па віне моладзевай інертнасці і пасіўнасці наша краіна перажыла сем год эканамічнай і палітычнай блакады і самаізаляцыі. За гэтыя гады сённяшняя ўлада паспела "падараваць" студэнтам інстытут абавязковага размеркавання, якое можна параўнаць хіба што з вяртаннем да прыгоннага ладу, актыўна займалася ўдушэннем Задзіночання беларускіх студэнтаў, Маладога Фронту , саджала і выключала з ВНУ навучэнцаў за палітычныя погляды. Дзякуючы таму, што моладзь спала, змардаваныя жыццём бабулі і дзядулі прагаласавалі за савецкі герб і сцяг, за змены ў Канстытуцыю, якія дазволілі цяперашняму кіраўніку стаць ледзь не манархам у нашай краіне. Многія адукаваныя людзі прыйшлі на выбары, але нават не спрабавалі растлумачыць сваім бацькам і дзядам, што палітыка кандыдата Лукашэнкі не прывядзе краіну да росквіту. Зараз многім з нас за гэта сорамна і шкада страчаных гадоў. Але, як не дзіўна, скепсіс і інертнасць нікуды не зніклі і зараз зноў чутна ад маладзёнаў: "Навошта ісці на выбары, калі Аляксандр Рыгоравіч ізноў пераможа?" Адказ на гэта можа быць толькі адзін: ён і сапраўды пераможа, калі ты і я, кожны з нас, не пойдзем на выбары і не зробім выбар на карысць новай Беларусі. Кандыдатаў хоць і не так шмат, але знайсці свайго можна. Нават самыя левыя з іх разумеюць непрымальнасць і шкоду ад цяперашняй палітыкі. І не трэба сябе пераконваць у тым, што выбары ўжо перадвырашаны. Апытанні сведчаць, што рэальны рэйтынг дзеючага кіраўніка краіны не перавышае 30%. Праблема толькі ў тым, што гэтыя працэнты належаць у асноўным найбольш абяздоленай і неадукаванай частцы грамадства, якая звычайна ходзіць на выбары.



Ты, вядома ж, у дзень галасавання можаш паехаць на дачу ці напіцца і адваляцца ўвесь дзень у сваіх уласных ванітах ці схадзіць і прагаласаваць супраць усіх. Не забывайся, што маладосць не вечная. Ты хочаш яшчэ сем год жыць ТАК?

*Андрусь Храпавіцкі*

### Перадвыбарны марафон

## Закон, што дышла

***Заявы аб парушэнні патрабаванняў Выбарчага Кодекса і іншых актаў заканадаўства РБ, якія паступілі ў камісіі, дзяржорганы, грамадскія аб'яднанні ў перыяд падрыхтоўкі да выбараў, рэферэндумаў… павінны разглядацца ў трохдзённы тэрмін, а тыя, што паступілі ў дзень выбараў,… — зараз жа. У выпадку, калі факты, патрабуюць праверкі, рашэнні па іх прымаюцца не пазней чым у дзесяцідзённы тэрмін.***

*(Глава 12, арт 49 ВК РБ, стар 71).*

Калі Глыбоцкае аддзяленне БХК звярнулася з заявай у пракуратуру першы раз, а было гэта 25 чэрвеня 2001 года (№ 20), то спадзявалася, што адказ прыйдзе хутка. Але чакаць прыйшлося не тры і не 10 дзён, як адведзена законам, а ажно 16. Каментарый тут не патрэбен.

18 ліпеня за №26 Глыбоцкае аддзяленне БХК накіравала ў пракуратуру яшчэ адзін запыт. Члены аддзялення занепакоены тым, што мясцовая ўлада не рэагуе на запыты грамадскасці і не дае ніякіх адказаў. У заяве прыведзены пяць выпадкаў, на якія аніяк не адрэгавалі асобы, якія па службе павінны гэта зрабіць. Сёння на календары жнівень. Адказу з пракуратуры яшчэ няма. Можа ў гэтай установе якое сваё заканадаўства, свае тэрміны разгляду?

Прадстаўніка Глыбоцкай праваабарончай арганізацыі Мартыноўскую Г.Л. ў склад раённай выбарчай камісіі не ўключылі. Да цяперашняга мы не ведаем чаму? Калі, да прыкладу, Я.А.Ермалаеву з Браслава адкінулі, то чорным па беламу напісана ёй у адказе: "… улічваючы важнасць кампаніі выбараў, перавага была аддадзена кандыдатуры, якая валодае вопытам работы ў выбарчых кампаніях".

Зараз вернемся да Глыбоцкай раённай выбарчай камісіі. Згодна заявы назіральнікаў, на пасяджэннях раённай камісіі прысутнічае загадчыца арганізацыйна-кадравага аддзела райвыканкама Зібарава А.М., якая членам камісіі не з'яўляецца. Назіральнікі адзначаюць, што яна раіць дзе, што, як правільна запісаць, унесці, перавесці. І няхай сабе яе голас не мае ўплыву на рашэнні членаў камісіі, гэта выяўнае парушэнне заканадаўства.

Магчыма, члены камісіі, без падказкі Зібаравай А.М. не ведаюць дзе, што і як напісаць, то навошта было такіх "кампетэнтных" выбіраць у склад камісій? Чаму б было не выбраць юрыста, які б даў рады тым паперкам? Калі Зібарава А.М. назіральнік, то яна павінна назіраць, як робяць іншыя, а не ўмешвацца ў работу камісіі і не перашкаджаць. Адпаведныя зявы грамадскія назіральнікі падрыхтавалі ў пракуратуру і старшыні раённай выбарчай камісіі Калбасічу А.С. Адказ з пракуратуры накіраваны на адрас назіральнікаў і на імя старшыні Глыбоцкага райвыканкама, у якім адзначана: «Просім разглядзець заявы па сутнасці і аб прынятых мерах інфармаваць заяўляльнікаў і пракуратуру не пазней 10.08.-2001 г.». Гэты дзень прайшоў. Выканкам назіральнікам адказ не даў.




*Па матэрыялах Глыбоцкага аддзялення БХК*

# Не хлебам адзіным жывы чалавек

*Наша жыццё – гэта смех і слёзы, будні і святы, ноч і дзень, мёд і горыч. Не абходзіцца без хвароб, якія нясуць праблемы ўсім родным і блізкім. Хворыя, мы спяшаемся ў аптэкі за лекамі, іншы раз забываемся, што немач цялесная можа быць ад немачы душэўнай, якая лечыцца не пілюлямі, а шчырай малітвай. Калі Вам вельмі цяжка, калі здаецца, што пад нагамі ў Вас не цвёрдая зямля, а бездань – чытайце гэтую малітву і ўручайце без боязі свой лёс Усявышняму. Ён выручыць Вас і дасць моцы.*

## Молитва об исцелении болящего

**Владыко, Вседержателю, Святый Царю, наказуяй и не умерщвляй, утверждаяй низпадающия и возводяй низверженные, телесные человеков скорби исправляй. Молимся тебе, Боже наш, раба Твоего (имя) немоствующа посети милостию Твоею, прости ему всякое согрешение, вольное и невольное. Ей (ему), Господи, врачебную Твою силу с небе низпосли, прокоснися телеси, угаси огневицу, укроти страсть и всякую немощь таящуюся, буди врач раба Твоего (имя), воздвигни его от одра болезненного и от ложа озлобления цела и всесовершенна, даруй его Церкви Твоей благоугождающа и творяща волю Твою. Твоё бо есть, еже миловати и спасати ны, Боже наш, и Тебе славу возсылаем, Отцу и Сыну, и Святому Духу, ныне и присно и во веки веков. Аминь**

### Суседская драма

# У двары злая гаспадыня ці побач злая суседка?

Не дзіва, што бацькі і дзеці жадаюць жыць асобна. Раз'язджаюцца, наведваюць адзін аднаго – і спакойна, і добра. І яшчэ кажуць, што суседзі часта становяцца бліжэй радні: і суцешаць, і дапамогуць і парадзяць. Таму і не дзіва, што на добрых талковых суседзяў трэба каб пашанцавала.

Маладая глыбачанка Людміла якраз гэтым пахвалiцца і не можа. На бытавой глебе займела да яе прэтэнзіі недалёкая суседка-пенсіянерка. То санстанцыю выклікала, скардзілася, што з туалетам ды смеццем не ўсё ў парадку, то ў пракуратуру звярталася. Дайшло да таго, што Людмілу выклікалі ў суд. Судзя доўга не мог зразумець, якія прэтэнзіі да Людмілы ў яе суседкі. Урэшце, апошнюю папяровую дзіі і на гэтым справа скончылася. Але…

17 ліпеня нявестка пенсіянеркі, таксама суседка Людмілы, "ударыла яе рукой па твары, хапала за рукі ў выніку чаго нанесла пацярпелай лёгкія цялесныя пашкоджанні". Добра, што ўсё скончылася менавіта лёгкімі пашкоджаннямі, якія не паўздзейнічалі на здароўе Людмілы. А магло ж быць і горш. Суд па заслугах "ацаніў" дзеянні Таццяны. У пастанове Глыбоцкага раённага суда ад 30.07.2001г. значыцца: "… Кіруючыся артыкулам 156-1, 202 КоАП РБ, суд пастанавіў спагнаць з Сяргеевай Т.А. штраф у памеры 15 тысяч рублёў, што складае два мінімальныя заробкі".

Здавалася б, трэба зразумець, што спрэчкамі, бойкамі ды лухтой калі і набудзеш імідж, то толькі адмоўны. Магчыма, некаторыя гэтага не зразумеюць за ўсё жыццё.

2 жніўня каля дзесяці раніцы Людміла, ідучы дадому, убачыла на сваім плоце прыклееены ліст паперы, тэкстам павернуты да вуліцы. На ім вялікімі друкаванымі літарамі было выведзена *"Во дворе злая хозяйка"*. Людміла здагадалася, хто гэта зрабіў і пасмяялася ад душы разам з іншымі суседкамі, якія зусім інакш адносяцца да людзей, што жывуць побач.

Здавалася, звычайная жыццёвая гісторыя. Але ў ёй воляй-няволяй задзейнічана мноства людзей: работнікі санэпідэмстанцыі, пракуратуры, міліцыі, суда.

Той, хто не можа зацугляць уласныя амбіцыі, адцягвае ад спраў столькі людзей! Унёсіцца нервознасць у жыццё маладой сям'і, кожны крок якой кантралюецца, каменціруецца. Але не падазраюць тыя суседкі колькі ўласных сіл і энергіі яны трацяць. Нашы сілы павінны ісці на добрыя справы. Толькі пры такой умове яны падвойваюцца. Калі ж накіраваны яны на злое, сілы трацяцца і ніколі не вяртаюцца да чалавека. Гэта закон прыроды і супраць яго не папрэш.

*М.Ясюкевіч*

### Ці ведаеце вы?

## Колькі трэба спаць?

Для таго, каб заўсёды быць бадзёрым, трэба спаць не менш 11 гадзін у суткі, бо за 8 гадзін сна адпачываюць толькі мышцы, але не мозг.

Калі вы спіце на жываце, значыць, незадаволены сваёй прафесіяй. Калі на спіне – вы моцная асоба, задаволеная жыццём. Той, хто спіць згорбіўшыся альбо прыціснуўшы да сябе падушку, схільны быць маркотным, любіць ласку. Непапраўныя песімісты накрываюць галаву коўдрай.

*Я.Іваноў*



7 ліпеня на стадыёне ў вёсцы Шуневічы, што ля Глыбокага, адбыўся футбольны матч паміж зборнай камандай ветэранаў-аматараў глыбачан і зборнай камандай урада і парламента.

На здымку: у цэнтры пад шостым нумарам футбаліст-дэпутат ад Глыбоччыны Васіль Хрол

*Фота Васіля Саланінкі*

## Грамадзянская супольнасць на Глыбоччыне

За мінулыя восем месяцаў сіламі супрацоўнікаў "Вольнага Глыбокага" падрыхтавана для друку і аддрукавана кніга І.І.Волкава "Легенды паданні азёрнага краю", кніга Г.Сутула "Гістарычныя старонкі Глыбоцкай міліцыі". Амаль на фінішы праца па падрыхтоўцы кнігі Р.Шарыпкіна "Гісторыя Залескага краю". На Глыбоччыне выходзіць газета "Рэха Дзеркаўшчыны" і "Вярхнянскі край". Са жніўня пры рэдакцыі "Вольнага Глыбокага" пачала працаваць школа журналістыкі, а ў горадзе – цэнтр псіхалагічнай дапамогі для жанчын, якія трапляюць у складаныя жыццёвыя сітуацыі. На Глыбоччыне нараджаецца грамадзянская супольнасць.

*Я.Савойка*

# Яна жыла з намі і для нас

З Нэляй Іванаўнай я пазнаёмілася ў 1991 годзе, калі яна працавала ў часопісе сатыры і гумару "Вожык". Рэдагавала матэрыялы, сама пісала смешныя замалёўкі, была загадчыца аддзела, мела шмат сустрэч з людзьмі. Яна першая адчула мой стыль, пераканала мяне ў тым, што я маю задаткі празаіка і гумарыста. Тактоўна і настойліва яна вучыла мяне спасцігаць глыбіню слова, шукаць яму годнае месца ў радку, асцерагала ад "хваробы" шматслоўя, паказвала на прыкладах, як пісаць сцісла, але маштабна. Гэта быў працяг тэорыі літаратуры, якую я вывучала ва ўніверсітэце; навука, выкладзеная ў даступнай практычнай форме вядомай паэткай. Нэля Іванаўна была здольнай настаўніцай, добразычлівай і шчырай. З ёй я магла пагаварыць па "душах" і адчуць яе разуменне. Калі рабілася млосна ад жыццёвых няўзгод, я тэлефанавала ці пісала ў Мінск…

У Нэлі Іванаўны пяць паэтычных зборнікаў. На адным з іх, "Я чакаю цябе", які выдадзены ў 1993 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", яна пісала: "Галінка! Я чакаю цябе ў літаратуры". Як жа было ленавацца і не апраўдаць надзеі?!

Вядомы беларускі ансамбль "Песняры" ў сямідзесятых выконваў гумарыстычную песню "Як павезлі мяне ў сваты". Словы верша напісала Нэля Іванаўна. Гэта песня была і застаецца маёй любімай. Словы другога яе верша паклаў на музыку кампазітар, наш зямляк Браніслаў Грамакоўскі. Чулі б вы, якая цудоўная атрымалася песня "Восем дзевак адзін я"!

Пакідаючы аўтограф на другой сваёй кнізе "Скажыце ўсім", Нэля Іванаўна адзначыла, што мы абедзве "галінкі беларускага радаводу".

Жыццё, што бязмежнае мора з небяспечнымі падводнымі рыфамі і выратавальнымі астраўкамі. У ім акрамя творчасці, на жаль, ёсць хваробы, бытавыя няўладзіцы. Абодвух маіх сыноў не абмінула немач. Паездзілі па гарадах, паскіталіся па бальніцах. Калі малодшага паклалі на аперацыю, Нэля Іванаўна, была разам з намі ўсімі.

**Вечная памяць!**

*Галіна Сутула*

### Вечная памяць

*30 ліпеня ў 6 гадзін вечара пасля цяжкай працяглай хваробы памерла вядомая беларуская паэтка Нэля Іванаўна Тулупава, аўтарка шматлікіх паэтычных зборнікаў, аўтар вершаў, якія сталі цудоўнымі песнямі*

## Анекдоты на закусь

*Хочаш доўга жыць – умей смяяцца.*

Паехаў чукча ў Маскву на машыне. Праз тры тыдні тэлефануе жонцы і кажа, што вяртаецца дамоў. Чакаюць яго дома месяц, другі, трэці. Прыязджае ён толькі праз год.

-- Дзе ты так доўга быў? -- пытае жонка.

-- Аднак, машына дурнаватая трапілася. Уперад ехаць чатыры хуткасці, а назад -- адна.

***

Вадзіцель аўтобуса аб`яўляе:

-- Прыпынак «Вінны магазін». Наступная -- «Канец чаргі».

***

-- Як узнікае анекдот? Садзяцца і прыдумваюць?

-- Не, спачатку прыдумваюць, а пасля садзяцца.




Незалежная рэгіянальная газета «Вольнае Глыбокае»

Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Набор, дызайн: Васіль Саланінка;
Рэгіянальныя карэспандэнты:
С. Табола, Шаркоўшчынскі р-н, тэл.: 23111;
У. Шык (г. Паставы), тэл.: 22099

Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1099, выдадзена дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Тэлефон: 2 37 54 (Галіна СУТУЛА); тэл/факс 2 41 50.
Адрас для допісаў: вул. Валадарскага, 67, 211800, г. Глыбокае, BELARUS.

Газета выходзіць штотыднёва.
Аб`ём -- 1 друкаваны аркуш.
Падпісана ў друк 12 жніўня 2001 г. у 9⁰⁰

Наклад 1000 паасобнікаў

Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26 Замова 5177